# РЭГІЁН
ГАРАДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

№3(17)

Інфармацыйнае выданне
Распаўсюджваецца бясплатна


# Создание российской авиабазы в Лиде не отвечает белорусским национальным интересам

**К такому выводу пришли эксперты во время общественных слушаний, инициированных Партией БНФ в Минске 10 сентября, передает БелаПАН.**



*Самолёт на авиабазе*

По мнению военного аналитика **Александра Алесина,** размещение российского авиационного полка на территории Беларуси может стать рискованным: «*Истребители СУ-27СМ3, которые планируется разместить, могут быть носителем ядерного оружия. В этом случае мы получаем на своей территории потенциальную цель, на которую будут направлены и крылатые ракеты, и бомбардировщики стран НАТО, если обострится международная ситуация*».

Определенные риски несет то, что территория, на которой будет располагаться российская военная авиабаза, может находиться под российской юрисдикцией, уверен эксперт. «*В этом случае размещение здесь тактического ядерного оружия не будет противоречить международному праву*», — отметил Алесин.

Собственно для оборонных интересов Беларуси создание российской авиабазы не является необходимым. «*Беларуси тяжелые вооружения ударные не нужны. Россия явно их размещает для себя*», — убежден военный аналитик.

**Андрей Поротников,** руководитель аналитического проекта Belarus Security Blog, подчеркнул: «***Иностранная база никак не влияет на укрепление национального оборонного потенциала, потому что остается в подчинении иностранного руководства***».

Но и собственно военная целесообразность создания базы в 38 километрах от литовской границы под вопросом, считает эксперт. «*Планируемая численность авиаполка — 20-22 самолета. У Польши на сегодняшний день 48 истребителей, еще такое же количество планируется передислоцировать из Италии. Очевидно, что 20 самолетов не смогут противостоять группировке, в пять раз превосходящей ее по численности*», — пояснил Поротников.

Аналитик убежден, что создание базы продиктовано политическими интересами в самой России. «*Это начало операции «Преемник»*, — считает Поротников. По его мнению, российское руководство готовит нынешнего министра обороны **Сергея Шойгу** на эту роль, а создание военной базы в Беларуси — часть улучшения его имиджа.

**Начало. Продолжение на стр. 2**

## Ты не адзін! ДАЛУЧАЙСЯ!

**Паважаныя чытачы, Рух “За Свабоду” легальная і зарэгістраваная ў Беларусі грамадская арганізацыя.**

**Запрашаем да супрацоўніцтва!**

**Калі Вы жадаеце далучыцца да дзейнасці Руху “За Свабоду” у сваім рэгіёне, пішыце нам:**

**Электронная пошта: civilhrodnaregion@gmail.com**

**Альбо СМС на нумар: + 48 533 843 423**



*Отдельные баки для различных видов мусора*

# Как разделять мусор?

**Очень часто мы бросаем в один контейнер различные продукты и отходы, которые могут быть соответствующим образом разделены и переработаны. Разделение бытовых отходов не сложный процесс, поэтому нам стоит всем подключиться к улучшению окружающей среды, в которой мы живем.**

Разделение бытовых отходов

— Бумага и картон (упаковка, журналы, газеты и т.д.)

— Бутылки, отходы из стекла бесцветного и цветного

— Пластик и металлы

— Зеленые отходы из огородов и парков

— Отработанные батарейки и аккумуляторы

— Отходы электрического и электронного оборудования

— Просроченные лекарства

— Химические вещества (краски, растворители, масла и т.д.)

— Мебель и другие крупногабаритные отходы,

— Отходы строительно-ремонтных работ

— Бытовые отходы должны собираться в соответствии с принятыми принципами в специальные контейнеры или в мешки.

Синие контейнеры используются для сбора упаковки из бумаги и картона, газет, книг, тетрадей, коробки.

Разделение этих отходов поможет сберечь деревья и энергию. 1 тонна макулатуры - 1200 литров воды и 17 деревьев. Важно, чтобы бумага, которую мы отделяем для макулатуры, была не загрязненной, потому, что очистка бытовых отходов не является экологически эффективной. Жалко, что в наше время еще очень мало и не хватает соответствующих технологий и оборудования для проведения таких процессов.

Желтые контейнеры для упаковочных отходов пластмасс и металлов, пластиковые бутылки, картонные упаковки для напитков, соков, молока и др. Пластиковые бутылки и упаковки надо сдавить – уменьшить объем. Переработка пластика очень важна, потому, что пластик не разлагается даже через тысячу лет.

Зеленые контейнеры предназначены для отходов из стекла (бесцветного, белого, цветного).

Нельзя выбрасывать стеклянную тару наполненную чем-либо. Крышки от бутылок должны быть отделены и положены в соответствующий контейнер. Но в этот контейнер нельзя бросать стеклянные тарелки, ветровые и оконные стекла, люстры, фарфор, и хрусталь. Не смешивайте различные виды стекла, так как каждый вид требует разной температуры плавления и имеет различный химический состав.

Разделение стекла позволит сэкономить сырье для его изготовления (песок, сода, известняк), и сохраним энергию, воду и сократим вредоносные выбросы.

## Создание российской авиабазы в Лиде не отвечает белорусским национальным интересам

**Окончание. Начало на стр. 1**

Аналитик BISS (Беларускі Інстытут Стратэгічных даследванняў) **Денис Мельянцов** согласился с тезисом о политической подоплеке решения о создании военной базы. *«Россия хочет застолбить здесь свое присутствие, чтобы влиять на внутриполитические процессы»,* — считает политолог.

С другой стороны, как отмечали все три эксперта, белорусская власть может использовать наличие на своей территории российской военной базы как инструмент для геополитического торга с Россией. *«Это фактор привязки Кремля к Александру Лукашенко, который уменьшает возможность появления пророссийского кандидата на выборах 2015 года»,* — заявил Поротников.

Напомним, 23 мая на встрече в Минске с **Александром Лукашенко** министр обороны России Сергей Шойгу заявил, что к 2015 году РФ планирует разместить в Беларуси истребительный авиаполк. По его словам, в 2013 году предполагается создать в Беларуси авиационную комендатуру и поставить первое дежурное звено боевых истребителей. Шойгу также сообщил, что в 2014 году в рамках договоренностей президентов двух стран Россия поставит в Беларусь четыре дивизиона С-300.

Как сообщил 26 июня главнокомандующий ВВС РФ генерал-лейтенант **Виктор Бондарев,** российская авиабаза будет дислоцироваться в Лиде (Гродненская область) и начнет функционировать уже в 2013 году. По его словам, на аэродроме в Лиде не потребуется возводить какие-либо новые объекты — **«строить там ничего не надо, там все есть».** На базе будут размещены модифицированные истребители Су-27СМ3.

**naviny.by**

# Іван Шэга. У пошуках праўды

**Слонімскага доктара Івана Шэгу я ведаю даўно. З ім немагчыма было не пазнаёміцца. Ці то ў раённай паліклініцы, ці то ў бальніцы, ці на розных сустрэчах з выбаршчыкамі, ці проста так на вуліцы ў Слоніме.**



*Іван Шэга*

Іван Шэга — прыгожы, інтэлігентны, адукаваны, нястомны ва ўсіх добрых і сур'ёзных справах — кідаецца ў вочы адразу. З ім цікава размаўляць, ён заўсёды дапаможа. Такімі людзьмі мы павінны ганарыцца.

## Штрых першы: маленства і юнацтва

Нарадзіўся Іван Шэга ў вёсцы Валеўка на Навагрудчыне 25 сакавіка 1953 года. Яго бацька Іван Іванавіч Шэга быў родам з вёскі Малюшычы Карэліцкага раёна. У 18-гадовым узросце ён пайшоў на фронт, а пасля вайны сем гадоў служыў у акупацыйных войсках у Германіі. Пасля дэмабілізацыі быў накіраваны на працу ў Валеўку, дзе і пазнаёміўся з будучай маці, тады Клаўдзіяй Зайка. Вынікам шлюбу бацькоў стала нараджэнне Івана, а праз 6 гадоў і сястры Наталлі.

Ваня Шэга вучыўся добра, навука давалася яму лёгка. Ды і з настаўнікамі Івану Шэгу вельмі пашанцавала. Ён і сёння часта ўспамінае іх з асаблівай цеплынёй. Беларускасці Ваня вучыўся ў такіх людзей, як настаўнік беларускай мовы і літаратуры Уладзімір Урбановіч, завуч школы Міхаіл Петрыкевіч, выхаванасці — у класнага кіраўніка Кацярыны Вінаград, ды і ўсе астатнія настаўнікі прымалі ўдзел у фарміраванні з вучняў сапраўдных людзей. У Валеўскай школе тады быў арганізаваны краязнаўчы музей, і вучні прымалі непасрэдны ўдзел у яго працы, праводзілі экскурсіі па музеі падчас канікулаў. Акрамя таго, каля школы вучні і настаўнікі стварылі вялікі парк-дэндрарый з экзатычнымі для нашых мясцін раслінамі, за якімі школьнікі пастаянна наглядалі. У Валеўскую школу прыязджалі і выступалі ў свой час перад вучнямі вельмі многія вядомыя беларускія пісьменнікі і паэты.

Сярэднюю школу Іван Шэга закончыў з адной чацвёркай у атэстаце. Дарэчы, галоўны ўрач Слонімскай бальніцы Юрый Пяцельскі, з якім працаваў Іван Шэга і які выганяў яго з працы, таксама закончыў Валеўскую школу, але значна пазней. Тое, што Іван Шэга падаў дакументы на паступленне ў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, ён лічыць умяшаннем у ягоны лёс Бога. Шэга дакументы рыхтаваў у політэхнічны інстытут, але, прыехаўшы ў Мінск, у апошні момант памяняў рашэнне, нават сам не ведаў чаму, але аднёс дакументы ў медыцынскі інстытут.

Падчас навучання на сельгасработах пазнаёміўся з будучай жонкай, якая вучылася на педыятрычным факультэце. У 1974 годзе яны ажаніліся, а ў 1975-м у іх нарадзіўся сын. У 1976 годзе Іван па размеркаванні быў накіраваны на працу ў Капыль хірургам, а жонка — педыятрам. Умовы працы для маладых спецыялістаў тады мала адрозніваліся ад цяперашніх: жылля не давалі, таму жылі на прыватнай кватэры, зарплаты былі малыя, таму без дапамогі бацькоў было б зусім цяжка. Адпрацаваўшы неабходны час, у 1980 годзе Шэгі пераехалі на радзіму жонкі — у Слонім.

Штрых другі: шлях у медыцыну

У Слоніме ў 1984 годзе Іван Шэга з дапамогай жончыных бацькоў пабудаваў сабе дом. Працаваў у траўматалагічным аддзяленні, шмат аперыраваў, праходзіў стажыроўкі ў Мінску, Ленінградзе, Маскве, Запарожжы. Авалодаў методыкай мануальнай тэрапіі, што тады было вельмі модна. У Слонімскай паліклініцы па ягонай ініцыятыве быў адкрыты кабінет мануальнай тэрапіі, пазней на базе аздараўленчага комплексу слонімскага кардонна-папяровага завода «Альбярцін» ім было арганізавана малое прадпрыемства «Фенікс», якое займалася аказаннем дапамогі хворым з астэахандрозам. На жаль, праз два гады, па прычыне рэканструкцыі тэрыторыі завода, прадпрыемства «Фенікс» было закрытае.

Але доктар Шэга стараўся працаваць сур'ёзна, павышаць свой медыцынскі вопыт, нягледзячы на ўсе праблемы і кур'ёзы. Ён у 1996 годзе стаў спецыялістам вышэйшай катэгорыі. Хворыя стараліся трапіць да яго на прыём. Доктара ў Слоніме сталі ведаць амаль усе.

## Штрых трэці: палітычны

У 1994 годзе Слонім наведалі тагачасныя дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі разам з Зянонам Пазьняком. На сустрэчу з імі прыйшлі каля тысячы чалавек, зала не магла ўсіх умясціць.Пасля выступлення Зянона Пазьняка Іван Шэга адразу напісаў заяву

# Іван Шэга. У пошуках і

на ўступленне ў БНФ. З таго часу, акрамя сваёй прафесійнай дзейнасці, стаў пацыху займацца грамадска-палітычнай. У выніку Іван Іванавіч перамог на мясцовых выбарах 2003 года, стаў дэпутатам Слонімскага раённага Савета.

Дэпутат Іван Шэга дабіваўся адкрыцця харчовай крамы на тэрыторыі свайго выбарчага ўчастка, бо людзі прасілі. Збіраў подпісы, пісаў скаргі, сустракаўся з людзьмі, з кіраўніцтвам райвыканкама і такі дамогся свайго. Старшыня райвыканкама Мечыслаў Касцюк нават даслаў яму запрашэнне на адкрыццё крамы! «Я вельмі стараўся працаваць у адпаведнасці з законам аб статусе дэпутата, праводзіў прыём выбаршчыкаў, ладзіў сустрэчы з імі, прычым рабіў гэта нефармальна. На фоне астатніх дэпутатаў выглядаў няблага, мяне мае выбаршчыкі ведалі і звярталіся пастаянна па дапамогу. Уладам мая дэпутацкая актыўнасць не падабалася. Пачаліся першыя праблемы на працы ў выглядзе прымусовага прызначэння мне дзяжурстваў на дні запланаваных мерапрыемстваў, адмоваў у прадстаўленні адпачынкаў і г.д.», — успамінае Іван Іванавіч.

На выбарах у Палату прадстаўнікоў Івана Шэгу не зарэгістравалі кандыдатам, бо баяліся, што за яго прагаласуе шмат людзей. Выбаршчыкаў прымушалі адклікаць сабраныя за яго подпісы. На чарговых мясцовых выбарах зноў не зарэгістравалі з-за дэкларацыі аб даходах. У даведцы аб даходах з бальніцы «забыліся» ўказаць 20 тысяч беларускіх рублёў прэміі. У 2007 годзе Іван Шэга арганізаваў кампанію за добраўпарадкаванне свайго мікрараёна, пасля чаго заасфальтавалі некалькі вуліц і завулкаў горада.

Выбары 2008 года ў парламент Іван Шэга і тысячы слонімцаў лічаць пераможнымі для доктара. Нягледзячы на ўсе падтасоўкі, ён набраў амаль 30% галасоў па афіцыйных звестках. «Што галасы скралі — без сумнення, бо маю доказы, — распавядае Іван Іванавіч. — Пасля выбараў на мяне наехаў галоўны ўрач-зямляк Юрый Пяцельскі, які парэкамендаваў мне напісаць заяву аб звальненні, аднак я падзякаваў і прапанаваў, што разбяруся ў гэтай праблеме сам. У адказ ён зволіў з працы старшыню майго выбарчага штаба Івана Бедку».

З гэтага часу Іван Шэга на працы быў пад пастаянным прэсінгам. Але па-сур'ёзнаму зачапіць не маглі, хаця крыві папсавалі. Маючы вышэйшую катэгорыю і з'яўляючыся аперыруючым хірургам, ён напісаў заяву аб пераходзе з паліклінікі ў траўматалагічнае аддзяленне Слонімскай бальніцы, бо там з'явілася вакансія. Галоўны ўрач Пяцельскі, канешне, адмовіў, а сам даў аб'яву ў СМІ, што яму патрэбен доктар для працы ў траўматалагічным аддзяленні.

Апошнім часам узначальвае Слонімскую арганізацыю партыі БНФ. «На парламенцкіх выбарах 2012 года наша партыя прытрымлівалася тактыкі, прапанаванай Слонімскай арганізацыяй партыі БНФ. Лічу, што нам удалося пераламаць сітуацыю, упершыню ўладам прыйшлося гуляць па нашых правілах, шкада толькі, што не ўсе дэмакраты гэта зразумелі. Я удзельнічаў у гэтай кампаніі ў якасці кандыдата, але па рашэнні партыі зняў сваю кандыдатуру», — разважае Іван Шэга.

### Штрых чацвёрты: медыцынскі

У тым жа 2012 годзе Іван Шэга зарэгістраваў недзяржаўную інфармацына-кансультатыўную ўстанову «Шэгамедкансульт». Перад гэтым мясцовыя актывісты ў Слоніме правялі добрыя грамадзянскія кампаніі па паляпшэнні медыцынскага абслугоўвання насельніцтва. Была праведзена канферэнцыя па гэтым пытанні з удзелам медыкаў з Гродна і Мінска, выпрацаваны канкрэтныя прапановы, якія былі накіраваны ў Слонімскі райвыканкам і адміністрацыю Слонімскай ЦРБ. Вынікам яе з'явілася набыццё кампутарнага тамографа, адмена незаконнай аплаты хворымі рэнтгенаўскай плёнкі, рэфармаванне працы траўматалагічнага кабінета паліклінікі. Акрамя таго, Іван Шэга прааналізаваў стан і выпрацаваў прапановы па рэфармаванні сістэмы аховы здароўя Беларусі.

Працуючы ў Слонімскай ЦРБ, Іван Шэга з пісьмовымі зваротамі пастаянна звяртаўся да галоўнага ўрача Пяцельскага наконт нізкай тэмпературы ў перавязачнай мінулай зімой, наконт няправільна ўсталяванай бесценявай лямпы, наконт неабходнасці папаўнення інструментарыя для амбулаторных аперацый і г.д. І, ведаючы яго настырнасць, адміністрацыя знаходзіла магчымасць тое-сёе зрабіць.

Калі заканчваўся працоўны кантракт, Іван Шэга раптам атрымаў ліст ад галоўнага ўрача Пяцельскага з прапановай працягнуць кантракт: «Адміністрацыя УА «Слонімская ЦРБ паведамляе, што з Вамі будзе працягнуты кантракт тэрмінам на адзін год з 28 чэрвеня 2013 года да 27 чэрвеня 2014 года».

Вядома ж, спецыялістаў у Слонімскай ЦРБ не хапае. Напрыклад, каб патрапіць да неўрапатолага, трэба чакаць месяц, да ўролага — каля двух месяцаў, тое самае і з траўматолагамі. Не хапае ў Слоніме траўматолагаў, бо нядаўна два добрых спецыялісты пераехалі ў Касцюковічы, адзін — у Мінск, уролаг — адзін на ўвесь раён, і то ён даўно пенсіянер. Маладыя спецыялісты прыедуць, адпрацуюць два гады і пакідаюць горад.

І раптам 21 мая Іван Шэга атрымаў ад таго ж Пяцельскага новае пісьмо, дзе галоўны ўрач папярэджвае: «Адміністрацыя Слонімскай ЦРБ паведамляе, што 27 чэрвеня Вы будзеце звольнены ў сувязі з заканчэннем тэрміну кантракта, п. 2 арт. 35 Працоўнага кодэксу Рэспублікі Беларусь».

### Штрых пяты: жыццё працягваецца

Даведаўшыся пра гэта, жыхары Слоніма пачалі збор подпісаў пад калектыўным зваротам у Слонімскі райвыканкам, Гродзенскі аблвыкан-

# праўды

кам, Міністэрства аховы РБ, адміністрацыю прэзідэнта, у якім прасілі даць ім мажлівасць лячыцца ў вопытнага доктара, якому яны давяраюць і якога ведаюць шмат гадоў. У абарону доктара Івана Шэгі было сабрана звыш 1500 подпісаў і адпраўлена па адрасах.

Кіраўнікі слонімскіх суполак партый «Справядлівы свет» (Сяргей Бузун), БНФ (Віктар Марчык), БХД (Іван Бедка), АГП (Сяргей Бялько) і Алесь Масюк ад «Руху за Свабоду» звярнуліся да старшыні Слонімскага райвыканкама Іосіфа Паўлюкевіча з просьбай падтрымаць доктара. У лісце партыйцы напісалі, што «доктар Слонімскай цэнтральнай раённай бальніцы Іван Іванавіч Шэга 30 гадоў адпрацаваў у бальніцы. Доктар вопытны, спецыяліст вышэйшай катэгорыі, якога ведаюць як добрага спецыяліста ўсе жыхары Слонімшчыны і нават суседніх раёнаў, ён поўны сіл і энергіі працаваць і надалей доктарам у Слоніме». Але спадар Паўлюкевіч адказаў: «Слонімскі раённы выканаўчы камітэт паведамляе, што з Шэга Іванам Іванавічам спынены працоўныя адносіны ў адпаведнасці з дзеючым працоўным заканадаўствам».

Івана Шэгу звольнілі з працы. Следам за ім звольніўся са Слонімскай ЦРБ і траўматолаг Юрый Халупка. Слонім застаўся без вопытных дактароў. Але гэта галоўнага ўрача Пяцельскага не хвалюе: ён па-ранейшаму дае аб'явы ў «Медыцынскі веснік» і іншыя выданні, што ў Слонім запрашаюцца на працу дактары амаль усіх спецыяльнасцяў. Толькі ніхто сюды не едзе. А Іван Шэга бясплатна лечыць хворых. Бывае па 5–6 чалавек у дзень, бо людзі просяцца да яго, яму давяраюць. А яшчэ доктар і палітык Іван Шэга ў Слоніме для сваёй уласнай установы «Шэгамедкансульт» шукае памяшканне ў цэнтры горада, каб там бясплатна даваць кансультацыі. Ён у нястомных пошуках праўды — жыццё працягваецца.

**Ул. Інф.**



# Партия БНФ считает высказывание Лукашенко в адрес белорусов — «народец» — постыдным

**Заместитель председателя Партии БНФ Игорь Ляльков заявил, что «употребление в адрес белорусов оскорбительного определения «народец» является недопустимым», пишет БелаПАН.**

28 сентября Александр Лукашенко, отвечая в Жлобине (Гомельская область) на вопрос журналистов о возможности девальвации, заявил: «Но в последние месяцы, я смотрю, наш народец побежал в обменные пункты. Ну, бегите. Бегите!»

«Это прямое оскорбление национального достоинства белорусского народа, — считает Ляльков. — Таким образом автор этого постыдного высказывания продемонстрировал, что на самом деле он белорусов не уважает и не считает достойными какого-либо серьезного отношения».

**Политик также отметил, что слова Лукашенко «красноречиво свидетельствуют о его настоящем отношении не только к белорусской нации как таковой, но и к той ее части, которая до сих пор поддерживает его авторитарное правление». «Каждому, у кого еще остались иллюзии относительно «народности» политики сегодняшней власти, нужно наконец задуматься.** Если руководитель государства не находит ничего лучшего, как называть граждан государства «народцем» и пытается возложить на белорусский народ ответственность за девальвацию и за достойные сожаления последствия собственной ошибочной экономической политики, — так, может, проблема все же не в народе, а в этом руководителе?»

**«Белорусы — нация, а не какой-то «народец»! — подчеркнул Ляльков. — А те политики, которые так думают, неизбежно в скором времени останутся на обочине истории».**

**naviny.by**

# Вячаслаў Швед: “Пакатацца на караблiку

**Аб праблемах развіцця, а таксама пра станоўчыя моманты турызму на Гарадзеншчыне ў інтэрв’ю для газеты “Туризм и отдых” разважае Вячаслаў Швед, доктар гістарычных навук, былы выкладчык універсітэта імя Я. Купалы, аўтар шматлікіх кніг па гісторыі Прынёманскага краю.**




Выгаднае геаграфічнае становішча на мяжы Беларусі, Польшчы і Літвы, наяўнасць розных турыстычных рэсурсаў, высокая канцэнтрацыя помнікаў гісторыі і культуры, якія могуць быць прывабнымі турыстычнымі аб’ектамі… Усё гэта робіць Гродзенскую вобласць адным з найбольш перспектыўных рэгіёнаў для развіцця турызму. Аднак, як і ў іншых галінах эканомікі, тут таксама не абыходзіцца без “падводных камянёў”.

*Вячаслаў Вітальевіч, якія асноўныя праблемы ў турыстычнай галіне стаяць сёння перад Гарадзеншчынай?*

Турызм з’яўляецца адной з важнейшых сфер сучаснай эканомікі. Аднак у гэтай галіне, як і ўсюды, таксама ёсць пэўныя праблемы. У першую чаргу гэта недастаткова развітая інфраструктура. Часам элементарна нельга знайсці сродкі транспарта, аб’екты харчавання і размяшчэння турыстаў.

Часта з прычыны нядбайнасці мясцовых уладаў знікаюць аб’екты турызму. Так, напрыклад, пасля рэканструкцыі старой Савецкай плошчы ў Гродне знікла яе гістарычная каштоўнасць. Таксама праводзіцца будоўля ў гістарычным цэнтры горада. Адчуваецца недахоп анімацыйных праграм падчас тураў.

Адсутнасць рэкламы – яшчэ адна з актуальных праблем. Мясцовыя туры і экскурсіі рэкламуюцца вельмі слаба, а стаўка ў турыстычных прадпрыемствах робіцца на продаж пуцёвак у замежжа. Сюды можна аднесці і недахоп даведачнай інфармацыі. Мала публікуецца краязнаўчай літаратуры... Праблем па-ранейшаму хапае.

*На вашу думку, што пера¬шкаджае замежніку выбраць Гарадзеншчыну месцам дзелавога, актыўнага, рэлігійнага ці транзітнага турызму?*

Гарадзенскі рэгіён мяжуе з Польшчай, Літвой, і гэта вялікі козыр для разнастайнага турызму. Але, на жаль, занадта многа бар’ераў існуе, якія перашкаджаюць літоўцу ці паляку свабодна наведаць Беларусь.

Відавочна, што турызму не спрыяе доўгае чаканне на мяжы, візавае афармленне, абавязковая рэгістрацыя ў міліцыі, калі замежнік звыш пяці дзён знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі. Да таго ж нашы патэнцыйныя наведнікі ў сваіх краінах не вельмі добра інфармаваныя аб турах, экскурсіях, мастацкіх, навуковых, спартыўных атракцыях у Гродне і наогул у Беларусі.

*Няма сумненняў, што Гара¬дзенскаму рэгіёну ёсць чым пахваліцца і што паказаць. Якія туры па Гара¬дзеншчыне і другіх рэгіёнах Беларусі могуць прыцягнуць еўрапейскага турыста?*

Згодны, еўрапейскаму турысту ёсць што паказаць у нашым рэгіёне і ў Беларусі ўвогуле – рэсурсаў хапае. Нашых суседзяў напэўна цікавіць сумесная гісторыка-культурная спадчына, якая спрыяе развіццю культурнага турызму. Турыстаў з далёкага замежжа прыцягвае прыроднае асяроддзе Беларусі, а гэта, у сваю чаргу, зялёная дарога для развіцця сельскага турызму.

У нас многія вузы праводзяць навуковыя канферэнцыі, на якія запрашаюцца навукоўцы з-за мяжы, а гэта ёсць навуковы турызм. Свабодная эканамічная зона садзейнічае дзелавому турызму. Толькі трэба ўрэшце вырашыць тыя праблемы, пра якія мы гаварылі вышэй.

*Як вы лічыце, турыстычны патэнцыял фестывалю нацыянальных культур у Гродне ўжо вычарпаны ці ёсць магчымасць зрабіць яго па-сапраўднаму вядомым у Еўропе?*

Калі ўдасканаліць праграму фестывалю, дык ён сапраўды мог бы стаць адной з турыстычных фі-

# – гэта яшчэ не турызм”

шак рэгіёна, бо, як вядома, Гродна заўсёды быў горадам шматэтнічным.

Магчыма, ад чагосьці трэба было б адмовіцца, напрыклад ад шэсця нацыянальных суполак, а нешта паглыбіць (нацыянальная кухня, спевы і танцы, касцюмы), таксама дабавіць нацыянальныя анімацыйныя праграмы, напрыклад, на гістарычныя тэмы, больш гульняў і забаў, конкурсаў сярод гледачоў з нацыянальнымі прызамі, больш сувеніраў, памятак.

*Атрымліваецца, што правя¬дзенне фестывалей можа быць адным з самых эфектыўных метадаў рэкламы турыстычнага патэнцыялу Гарадзенскага рэгіёна…*

Так, на маю думку, фестываль можа стаць візітнай карткай турыстычнага Гродна, гэта сапраўдная падзея. Але трэба шмат намаганняў, каб турысты з замежжа гаварылі: трэба ехаць у Гродна, таму што там ёсць такі файны фестываль, ім можна пабавіцца. Тут трэба нават думаць асобна, як і чым прываблiваць розных турыстаў – дзяцей, моладзь, старэйшае пакаленне. Таму што ў розных узроставых груп розныя інтарэсы.

*Наколькі, на ваш погляд, развіццё турызму стрымлівае адсутнасць турыстычнага брэнда?*

Несумненна, стрымлівае. Цяпер, дарэчы, стараюцца знайсці нейкі брэнд не толькі ў турызме, а і ў іншых галінах эканомікі. Рэклама заўсёды была моцным рухавіком. Калі лагатып нейкага брэнда размешчаны, напрыклад, на кубку для гарбаты ці кавы, на торбе ці яшчэ недзе, то гэта ўжо прыцягвае ўвагу, ужо стварае нейкую глебу для цікаўнасці – нехта можа зацікавіцца і прыехаць.

Так што брэнд – гэта адназначна добра, бо як паказала гісторыя эканомікі розных іншых еўрапейскіх краін, сваю функцыю брэнд выконвае, пэўную ролю ў пашырэнні кліентуры турыстычных фірм таксама адыгрывае.

*На ваш погляд, што магло б стаць такім брэндам у Гродне ці Гродзенскай вобласці?*

Безумоўна, нельга пакідаць па-за ўвагай Аўгустоўскі канал, таму што гэта канал трох народаў. Ён ужо выкарыстоўваецца ў міжнародных кантактах Беларусі, Польшчы і Літвы – напрыклад, праводзяцца фес¬тывалі польска-беларуска-лі¬тоў¬скай песні, таму, думаю, ён мог бы з лёгкасцю прыцягнуць мноства турыстаў з гэтых краін. І, дарэчы, ужо пакрыху прыцягвае.

*Дык што перашкаджае гэтай атракцыі стаць турыстычнай пярлінай рэгіёна, а можа, і ўсёй Беларусі?*

На сённяшні дзень шмат хто жадае актыўна правесці там час, пакатацца на тых самых лодках, паглядзець на шлюзаванне, пабыць на экскурсіі, пасядзець у цікавай рэстарацыі, пакаштаваць нацыянальных страў, пераначаваць у добрым гатэлі. Аднак з-за нізкага ўзроўню мясцовай інфраструктуры, з-за арганізацыйных недахопаў зрабіць усё гэта цяжка. Турыстам трэба прапанаваць больш анімацыйных праграм, больш цікавых мерапрыемстваў і, зразумела, добрую інфраструктуру з еўрапейскім сервісам.

Нельга, каб было так, што турыст прыехаў і не ведае, чым заняцца. Дарэчы, проста пакатацца на караблiку па Аўгустоўскім канале – гэта яшчэ не турызм, а толькі баўленне вольнага часу!

*У такім выпадку, лагічнае пытанне: ці ёсць шанец у Аўгустоўскага канала стаць такім жа запатрабаваным, як і яго польская частка?*

Канал адрэстаўравалі, і, шчыра кажучы, ён трохі згубіў сваю ідэнтычнасць. Аднак ён ёсць, і яго трэба выкарыстаць на ўсе 100%! Але сёння ён выкарыстоўваецца ў значна меншай ступені. Чаму? Таму што інфраструктура не развіваецца, таму што і фірмы не працуюць над тым, каб не толькі на параходзіку павазіць турыстаў, а нешта ім яшчэ паказаць, расказаць і тым самым прывабіць. Карацей, яшчэ трэба працаваць.

Міжнародны праект, які тычыўся Аўгус¬тоўскага канала і ў якім я некалі ўдзельнічаў, даўно скончыўся. Зрабілі многа цікавага, напрыклад роварныя дарожкі. Аднак ці многа турыстаў на роварах з Літвы ці Польшчы там можна ўбачыць? Зрабілі канатную дарогу, дзе можна палазіць і атрымаць крыху адрэналіну – таксама цікава. Але праблема – не чуваць рэкламы. Ніхто не кліча, каб народ ехаў бавіцца на гэтай канатнай дарозе, ніхто не запрашае на роварную прагулку. Хаця, думаю, тая ж гарадзенская моладзь замест таго, каб сядзець на Савецкай плошчы і піць піва, з задавальненнем паехала б на канал.

*Напэўна, вы ведаеце аб такім паняцці, як “кластар”. Ці развіты гэты накірунак у межах Гродзенскай вобласці, і калі не, то што перашкаджае паўнавартаснаму развіццю?*

Турыстычныя кластары будуць развівацца, але пакуль у нас яны не вельмі распаўсюджаны. Кластар – гэта калі некалькі зацікаўленых у развіцці турызму галін злучаюцца ў адзінае цэлае: сельская гаспадарка, аграфірма, сядзіба, транспартная арганізацыя, турыстычныя кампаніі. Яны злучаюцца для таго, каб прадаць выніковы турыстычны прадукт і атрымаць прыбытак. Пры такім раскладзе, напрыклад, аграсядзіба прымае, размяшчае турыстаў, харчаванне бярэ ў суседа, які развівае фермерскую гаспадарку, турыстычная фірма праводзіць экскурсіі, а транспартная – дастаўляе турыстаў на гэтыя экскурсіі. Усе ў гэтым зацікаўлены, усе апякуюцца гэтымі турыстамі, толькі каб ім было добра.

Аднак над гэтым у нас яшчэ трэба працаваць. Ні адзін студэнт пакуль не напісаў дыпломную працу на дадзеную тэму, а гэта азначае, што накірунак не развіты. Пра гэта, дарэчы, амаль не пішуць у прэсе. Усё знаходзіцца толькі на пачатковым узроўні, аднак мае добрую перспектыву. Таму трэба думаць над гэтым і працаваць.

*У якім кірунку, на ваш погляд, трэба развіваць беларускі турызм?*

У розных. Трэба больш актыўна і энергічна развіваць тыя ж кластары. Магчыма, ствараць турыстычна-вытворчыя карпарацыі, дзе будуць не толькі прадаваць пуцёўкі ў цёплыя краіны, але і займацца ўнутраным турызмам, прыёмам турыстаў з-за мяжы.

**Пачатак. Працяг на стар. 8**

# Вячаслаў Швед: “Пакатацца на карабліку – гэта яшчэ не турызм”

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 6**

Сёння прыём дае мала прыбытку альбо не дае ўвогуле, а вось ра¬зам, у такой кампаніі, быў бы прыбытак. Так што трэба развіваць розныя накірункі і розныя сегменты, тады гэта прынясе добры плён. У працяг таго, што ўжо казаў вышэй, можна дабавіць яшчэ і сумесныя турыстычныя арганізацыі. Напрыклад, у Гродне ёсць людзі, якія распаўсюджваюць байдаркі на Аўгустоўскім канале. Наколькі я ведаю, яны супрацоўнічаюць з палякамі, аднак гэта толькі супрацоўніцтва. Магчыма, трэба стварыць польска-беларускую сумесную кампанію, якая той самы Аўгустоўскі канал выкарыстае на 101%? Польшча ў гэтым накірунку больш развіваецца. Дык чаму нам гэта не выкарыстаць? Як заахвоціць бізнес хутчэй развіваць інфраструктуру ў рэгіёне? Безумоўна, падтрымоўваць прыватную ініцыятыву трэба. Мала ў каго з прадпрымальнікаў знойдуцца вялікія пачатковыя капіталы для таго, каб увайсці ў тую ж свабодную турыстычную зону і пабудаваць, напрыклад, у раёне Аўгустоўскага канала домік, дзе можна будзе прымаць гасцей. Да того ж трэба ўлічваць, што зарабляць тут, па сутнасці, можна толькі ў высокі турыстычны сезон, бо ў другую пару мала хто паедзе. Атрымоўваецца, што грошы ўкладзеш, а прыбытку не атрымаеш. Значыць, трэба прыдумаць схему, па якой вызваляць прадпрымальнікаў ад падаткаў. Напрыклад, у міжсезонне. Тады і прадпрымальнікі будуць у плюсе, і дзяржава ў рэшце рэшт атрымае падаткі. І, канешне, трэба максімальна спрасціць бюракратычныя працэдуры. Стаўку на турыстаў з якіх краін робіць зараз Гарадзеншчына і чаму? У першую чаргу гэта краіны-суседкі, з якімі ёсць агульная гістарычная і культурная спадчына. Нашым турпрадуктам можна зацікавіць палякаў, літоўцаў, латышоў, украінцаў, рускіх. Трэба проста добра разлічыць, як гэтага замежніка да нас прыцягнуць. І не трэба думаць, што толькі мы ездзім за мяжу, каб нешта набыць, пабавіцца шопінгам. Не раз назіраў карціну, калі тыя ж літоўцы з задавальненнем набывалі розныя тавары ў нашай краме. Шмат што для іх і танна, і якасна, тыя ж малочныя прадукты, айчынная касметыка, а для нас гэта – дадатковая валюта. Зразумела, што працы яшчэ шмат і ёсць над чым працаваць. Аднак турыстычны накірунак увесь час развіваецца, не стаіць на месцы. Якія станоўчыя тэндэнцыі ў развіцці турыстычнай галіны Гродна і вобласці вы маглі б адзначыць? Так, да гэтага часу мы гаварылі аб праблемах. Аднак шмат чаго і зроблена. Рэканструяваны некаторыя помнікі гісторыі і культуры, у планах – рэканструкцыя Старога замка, Барысаглебскай царквы. Ідзе рэстаўрацыя вуліц, плошчаў горада, распрацоўваюцца розныя анімацыйныя праграмы, прывабныя для ўнутранага і замежнага турызму турыстычныя маршруты, памалу, але ж развіваецца інфраструктура. Адрамантаваны некаторыя гатэлі, будуюцца новыя. Публікуецца даведачная літаратура па гісторыі культуры Гродна, турыстычныя фірмы час ад часу праводзяць нарады па развіцці турызму, універсітэт імя Купалы праводзіць канферэнцыі па пытаннях турызму. Звярнулі ўвагу на Румлёўскі парк, які можа быць прывабным прыродным рэсурсам. Пашыраецца аўтобусны парк турыстычных фірм. Усё гэта, безумоўна, дасць добрыя вынікі. На месцы нічога не стаіць, але відавочна, што турызм патрабуе большых намаганняў ад прыватнага бізнесу, грамадскіх арганізацый, больш руплівай працы гарадской і абласной улады. Усё патрабуе паглыблення сваёй дзейнасці, бо пакуль гэта праводзіцца не ў тым аб’ёме, каб дасягнуць яркіх вынікаў. Вячаслаў Вітальевіч, можа, вы хочаце звярнуць увагу на яшчэ якія-небудзь важныя аспекты ў турызме Гарадзенскага рэгіёну і ў цэлым – у развіцці рэгіянальнага турызму Беларусі? Турызм у Беларусі развіваецца, а гэта галоўнае. Аднак, з майго пункту гледжання, трэба звярнуць яшчэ больш увагі на той жа сельскі турызм, які прадстаўляе сабой і этнатурызм, і агратурызм. Мы мала займаемся адукацыйным турызмам. Недастаткова развіваем атракцыйны турызм, а таксама спартыўны, які можа прыцягнуць шмат турыстаў. Трэба развіваць усе накірункі турызму. Бо сёння турыстаў прываблівае адно, заўтра другое, пасля – трэцяе. Асаблівую ўвагу, лічу, трэба звярнуць на дзяцей і моладзь. Яны – патэнцыяльныя турысты, яны ўсім цікавяцца. Несумненна, не ва ўсіх можа хапаць сродкаў, тады ў гэтым павінны быць задзейнічаны школа, улада. Моладзь – наша будучыня, на ёй трымаецца краіна, таму дзяржава не павінна шкадаваць грошай на яе адукацыю і выхаванне, і турызм у гэтых пытаннях можа адыгрываць вельмі сур’ёзную і станоўчую ролю. Мажліва, зараз вы працуеце над новай кнігай па Гарадзеншчыне? Так, працую над кнігай пад назвай “Кронан”. Першы раз гэта кніга была выдадзена ў 1993 годзе пры падтрымцы гарадской улады, гэта быў летапіс горада на Нёмане. Кніжка стала настольнай для многіх арганізацый, устаноў, у тым ліку і турыстычных, якія маглі яе выкарыстоўваць пры падрыхтоўцы маршрутаў. Аднак на сённяшні дзень кніжка састарэла, яе трэба дапоўніць, штосьці змяніць, перапісаць. Яна будзе трохі ў іншай структуры, крыху другой па змесце, а самае галоўнае – будзе ілюстраванай. Фарматам і тэхнікай публікацый яна будзе нагадваць вядомае выданне “Гродназнаўства”. Пакуль не буду раскрываць тайны зместу. Але гэта будзе не толькі хроніка, будзе і новы змест, які больш падрабязна раскрые і храналогію, і гістарычныя асобы нашага цудоўнага горада. Здымак з архіву «Твайго стылю»

**http://www.t-styl.info**


Інфармацыйнае выданне РЭГІЁН

Надрукавана ў друкарні ААТ **«Смоленская печать»** г. Смоленск, ул. Ломоносова д.3

Распаўсюджваецца бясплатна

Наклад 299 асобнікаў

Адказны рэдактар: **Алесь Зарэмбюк**